© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 13 (112)* *7 – 13 красавіка 1995 г.* *Кошт 300 рублёў*



## ГЕНЕРАЛЬНАЯ ПРАКУРАТУРА СЬЦЬВЯРДЖАЕ, ШТО ЛУКА МУДЗІШЧАЎ І ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА - АДНА АСОБА

Менавіта гэтая недарэчнасьць вынікае з візіту ў рэдакцыю "Пагоні" сьледчага па асоба важных справах пры Генеральным пракуроры Рэспублікі Беларусь В.Камароўскага. Ён паведаміў, што па факту публікацыі ў нашай газеце верша "З чарнавых накідаў Ведзьмака Лысагорскага" Генеральнай пракуратурай узбуджана крымінальная справа па артыкулу 188 Крымінальнага кодэкса. Высьветлілася, што лірычны герой гэтага верша - Лука Мудзішчаў - зьяўляецца прадстаўніком улады, бо артыкул 188 прадугледжвае пакараньне за "зьнявагу прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананьнем службовых абавязкаў".

- Не, - запярэчыў спадар Камароўскі, - прадстаўніком улады зьяўляецца прэзідэнт Лукашэнка. А ён і Лука Мудзішчаў - ёсьць адна і тая ж асоба.

У падцьверджаньне сваіх слоў Валеры Міхайлавіч здаля паказаў ліст са шматлікімі подпісамі акадэмікаў і дактароў, якія ў выніку экспертнага аналізу ўстанавілі падобны абсурд.

На думку рэдактара нашай газеты дэпутата Вярхоўнага Савета Міколы Маркевіча, мастацкі вобраз спадара Лукі Мудзішчава ня можа атаясамляцца з вядомым "змагаром" з інфляцыяй ды мафіяй. У сувязі з гэтым, Мікола Маркевіч адмовіўся даваць паказаньні ў гэтай справе, дадаўшы ў пісьмовым тлумачэньні, што "праваахоўчая сістэма Рэспублікі Беларусь ня здольна аб'ектыўна і непрадузята разглядаць справы такога роду".

Ілюстрацыяй гэтых слоў стаў прыклад, калі, нягледзячы на шматлікія спробы, грамадзянін М.М.Маркевіч так і ня здолеў прыцягнуць да судовай адказнасьці грамадзяніна А.Р.Лукашэнку за публічную абразу і хлусьню.

**В.Л.**

## НА МЫТНІ ХАПАЕ ПРАЦЫ

Указ прэзідэнта, які забараняе прадаваць тытунёвыя і алкагольныя вырабы імпартнай вытворчасьці без акцызнай маркі дадаў працы гарадзенскім мытнікам. Мытнікі саматуж наклейваюць акцызныя маркі на гэтыя тавары. Праца нялёгкая. Набыць жа каштоўную маркіровачную лінію за 150 тысяч долараў, каб паскорыць працэс клейкі, пакуль што няма магчымасьці з-за недахопу сродкаў.

Аднак, новы акцызны падатак на тытунь і алкаголь ўжо сёньня наносіць немалыя шкоды. Так, адна галандзкая фірма, што пастаўляла сьпірт на Беларусь, вярнула свой груз вагой у 105 тон назад. Прычына - высокі акцызны падатак.

**Г.А.**

## АБУТНІКІ ВЫЙШЛІ НА ВУЛІЦУ

6 красавіка работнікі акцыянернага таварыства "Гроднаабутак" сустрэлі гэты дзень не на працоўным месцы, а перад уваходам на прадпрыемства. Яны патрабавалі павышэньня і заробку і своечасовай яго выплаты, выказвалі незадаволенасьць дзейнасьцю адміністрацыі і прафкаму, патрабавалі зьмены статуса прадпрыемства, якое некалькі гадоў таму было дзяржаўным.

Не знайшоўшы агульнай мовы з начальствам, працаўнікі выйшлі на вуліцу Савецкіх пагранічнікаў, перакрыўшы рух грамадзкага транспарту.

**А.ДУК.**

## ГУЛЬНЯ, НЯ ВАРТАЯ СЬВЕЧАК

**1 красавіка гарадзенцы не маглі не заўважыць, што з паліц і прылаўкаў дзяржаўных і камерцыйных кропак гандлю зьніклі алкагольныя і тытунёвыя вырабы замежнай вытворчасьці. Як вядома, з гэтага дня, згодна Указу Прэзідэнта РБ А.Лукашэнкі, на тэрыторыі краіны забаронена іх рэалізацыя без папярэдняй маркіроўкі.**

Зразумела жаданьне прэзідэнта папоўніць рэспубліканскі бюджэт за кошт спагнаньня акцызнага падатку і пасадзейнічаць павялічэньню попыту на аналагічную прадукцыю айчынных вытворцаў. Але ж чаму ізноў усё робіцца насуперак інтарэсам значнай часткі народа (за кошт яго кашалькоў і здароўя), пра які ў сваіх прамовах нярэдка ўспамінае А.Лукашэнка? Бо цана на шэраг імпартных алкагольных і тытунёвых вырабаў да 1 красавіка была значна ніжэйшый за айчынныя аналагі. А якасьць? Цяжка параўноўваць "Космас", які выробляецца на Гарадзенскай тытунёвай фабрыцы, не кажучы пра іншыя больш нізкага класу віды цыгарэт, і адпаведны яму па цане "West". А "Празрыстую" і "Rasputin"?

Безумоўна, гандаль, як дзяржаўны, так і не дзяржаўны, пасьля маркіроўкі замежных тавараў ускосна перакладуць аплату акцызнага падатку на плечы спажыўцоў, прыплюсаваўшы яго памер да ранейшай цаны на іх. Гэта прывядзе да зьніжэньня попыту і, як вынік, аб'ёмаў продажу гэтай прадукцыі. Такім чынам, вядікай прыбаўкі бюджэт не атрымае. Дык ці вартая гульня сьвечак? Тым больш, што вялікія сумы грошай будуць, як кажуць, трапляць міма касы, бо кемлівыя прыватныя гандляры і камерсанты, не асабліва хаваючыся, працягваюць гандляваць немаркіраванымі і будуць рабіць гэта надалей, нягледзячы ні на што.

**С.РЭЎКА.**

## РОЎНАСЬЦЬ - ПА-ЛУКАШЭНКАЎСКУ

30 сакавіка Прэзідэнт РБ А.Лукашэнка падпісаў Указ "Аб забесьпячэньні роўных магчымасьцей грамадзянам пры падрыхтоўцы і правядзеньні выбараў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь". Але ж, наўрад ці ён будзе выкананы, належным чынам, бо кантраляваць будуць тых, хто не падабаецца А.Лукашэнку ці яго паплечнікам.

Гэтым Указам выканкамам і акруговым выбарчым камісіям прадпісваецца "весьці ўлік выпадкаў агітацыі, якая распальвае сацыяльную, нацыянальную або рэлігійную нянавісьць, заклікае да захопу ўлады, гвалтоўнай зьмены канстытуцыйнага ладу, парушэньня цэласнасьці дзяржавы". Але ж пры жаданьні, любое выказваньне , у якім будзе крытыкавацца існуючае ў рэспубліцы становішча, можна падвесьці пад "крымінал".

Артыкул з Закона аб друку Рэспублікі Беларусь прадугледжвае, што грамадзяне краіны маюць права "выкарыстоўваць і распаўсюджваць інфармацыю пры дапамозе друку і іншых сродкаў масавай інфармацыі, свабодна выказваць праз іх свае думкі, погляды і перакананьні". Затое пункт пяты Указа прадугледжвае, што "выступленьні кандыдатаў" павінны ажыцьцяўляцца "выключна ў мясцовых сродках масавай інфармацыі ў адпаведных выбарчых акругах" (няўжо ў кожнай выбарчай акрузе прэзідэнт створыць па газеце?).

Прэзідэнцкі Указ таксама дыскрымінуе кандыдатаў у дэпутаты, якія працуюць у дзяржаўных установах, прадпрыемствах і арганізацыях, бо ім забараняецца на перыяд удзелу ў выбарах працягваць "выкананьне сваіх службовых абавязкаў".

Дык якія "роўныя магчымасьці" меў на ўвазе А.Лукашэнка, падпісваючы Указ N 124?

**А.ВОЛАТ.**

## У ДЭПУТАТЫ КРОКАМ - РУШ!

Менавіта так дзейнічае лідзкая міліцыя, выконваючы загад вышэйшага міліцэйскага кіраўніцтва. Свае кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Савета выставілі: па 133-й Чырвонаармейскай акрузе - начальнік гарадзкога аддзела ўнутраных спраў сп.Макаранка, па 134-й Камсамольскай - яго намесьнік сп.Гаўрылаў, па 135-й Сельскай - начальнік РАУС сп.Урлік. Што ж, мабыць, усе злачынцы злоўлены, парадак наведзены, рэкет задушаны, а валютчыкі пасаджаны, час заняцца справамі дзяржаўнымі.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## І ПАКУЛЬ ЯШЧЭ ЁСЬЦЬ СІЛЫ...

**- Мікалай Аляксандравіч,тое, што мы прачыталі Ваша імя ў сьпісе кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета, пэўна, нікога не зьдзівіла. На Гарадзеншчыне Вас добра ведаюць, як актыўнага прыхільніка дэмакратычнага руху. Але ж такім людзям больш за ўсё і дастаецца?.**

- Так, Вы маеце рацыю. 30 жніўня 1994 года загадам па універсітэту была вераломна перапынена мая навуковая і педагагічная дзейнасьць, якая працягвалася без малога сорак гадоў. Па сутнасьці звольнены быў за праўдашукальніцтва, за іншадумства. Народны суд Ленінскага раёна аднавіў мяне на працы. Але кіраўніцтва універсітэта не дае мне магчымасьці ажыцьцявіць распрацаваную мной праграму падрыхтоўкі настаўніка-дасьледчыка, спрабуе пазбавіць мяне радасьці, якую дае выкладчыцкая праца, лучнасьць са студэнтамі.

**- Зараз Вы ўзначальваеце гарадзенскае гарадзкоге аддзяленьне Беларускай дэмакратычнай арганізацыі ветэранаў, зьяўляецеся сябрам Цэнтральнай рады БДАВ?**

- Беларуская дэмакратычная арганізацыя ветэранаў зьяўляецца добрахвотнай грамадзкай арганізацыяй і складаецца з ветэранаў вайны, працы, узброеных сілаў, ахвяр палітычных рэпрэсій. Мы ставім перад сабой мэту: клопат аб сацыяльна-эканамічных і асабістых правах ветэранаў (некаторыя з іх ужо атрымалі матэрыяльную дапамогу), аб іх удзеле ў грамадзкім жыцьці, выхаваньні ў моладзі нацыянальнай сьвядомасьці, пачуцьця гонару за свой народ. У нас распрацаваныя такія праграмы як"Спадчына","Экалогія", "Ветэраны - школе".Сябры рады выступаюць на старонках газет і часопісаў з артыкуламі па актуальных праблемах жыцьця рэспублікі Беларусь.

Стаўшы старшынёй Рады Гарадзенскага аддзяленьня БДАВ, знайшоў прымяненьне сваім "творчым сілам", але ўжо ў іншай галіне - грамадзка-палітычнай. Тут таксама для ўсіх нас непачаты край працы, і ня толькі перад выбарамі.

**- Вашы артыкулы і выступы на тэлебачаньні і радыё ў падтрымку суверэнітэта Рэспублікі Беларусь і яе нацыянальнай сымболікі, у абарону сацыяльна-эканамічных і іншых правоў ветэранаў прынесьлі Вам шырокую вядомасьць.**

- Кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі Беларусь мяне вылучыла рэспубліканская канферэнцыя Беларускага аб'яднаньня ветэранаў. Вылучэньне падтрымалі Гарадзенскай абласное таварыства ахвяраў палітычных рэпрэсій (старшыня П.А.Жук) і Таварыства польскіх ветэранаў Сусьветнай Федэрацыі (старшыня А.Ф.Валіньскі).

**- Калі зайшла гаворка пра Мельнікава-кандыдата, то нашым выбаршчыкам, ды і ўвогуле ўсім чытачам "Пагоні" цікава будзе даведацца пра Ваш жыцьцёвы шлях...**

- Я родам з Магілёўшчыны. Нарадзіўся ў 1924 годзе ў сялянскай сям'і, якая была рэпрэсавана. Тры гады разам з бацькамі я знаходзіўся ў лагеры на Поўначы - у Валагодзкай вобласьці, адкуль мяне скралі сваякі. Потым жыў і вучыўся ў Алтайскім краі ў вельмі дарагога для мяне чалавека - майго дзядзькі. У 1940 годзе паступіў у Магілёўскі педінстытут. Бараніў Магілёў, быў у партызанскім атрадзе "Беларусь", камандаваў аддзяленьнем, рэдагаваў газету. Потым ваяваў у шэрагах Савецкай Арміі. Удзельнічаў у штурме Кёнігсьберга. Пасьля заканчэньня літаратурнага факультэта Магілёўскага педінстытута, а пазьней асьпірантуры, працаваў у вышэйшай школе. З 1986 па 1993 год узначальваў кафедру рускай і замежнай літаратуры Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы.

**- Неад'емнаю часткаю Вашага жыцьця і педагагічнай дзейнасьці сталі Вашы навуковыя працы.**



- На маім рахунку, калі можна так сказац пяць кніжак, дзесяткі артыкулаў па праблемі методыкі выкладаньня літаратуры і педагогік. Набыткі гэтых прац выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе педінстытутаў, універсітэтаў і сярэдніх школ. На мае навуковыя працы спасылаюцца многія дасьледчыкі.

**- Напрыканцы гаворкі не магу ўстрымацца ад традыцыйнага, пытаньня: у чым Вы бачыце асноўны сэнс сваёй грамадзка-палаітычнай дзейнасьці?**

- Каб ня быць чарговым балбатуном не абяцаць многа, як кажуць, "залатыя горы", а палюдзку рабіць сваю няхай і не вялікую, не глабальную, а канкрэтную справу.

**Гутарыў А.ДЗЕМІДОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# ГРАМАДЗТВА

МЕРКАВАНЬНІ

## КРАСАВІК БУДЗЕ БОЛЬШ ПАЛІТЫЧНЫ, ЧЫМ РЭЛІГІЙНЫ

**У нашай незалежнай Беларусі засталася ад былой савецкай імперыі адна заганная звычка - наладжваць палітычныя шоў-кампаніі падчас агульначалавечых і спрадвечных сьвят. Так станецца і ў красавіку, калі праваслаўныя і каталікі будуць адзначаць Вялікдзень. Але чаканьне традыцыйнага сьвята будзе адбывацца на брудным фоне палітычных баталій за месца пад сонцам - у Вярхоўным Савеце Беларусі. Паспрабуем прааналізаваць сітуацыю з пазіцыі нейтральнага назіральніка.**

### УСЕ РВУЦЦА ДА ЎЛАДЫ

Палітычныя партыі і рухі Гарадзеншчыны пачалі барацьбу за месцы ў парламаньце чамусьці з афіцыйных ветэранскіх арганізацый і камуністаў. Дзіўна было глядзець, як слабыя розумам і целам дзяды, а сярод іх нямала аселых вайскоўцаў-расейцаў, ,кінуліся ў свой "последний и решительный бюй". Божухна ты мой, дык некаторыя вылучаныя кандыдаты ў дэпутаты па стану здароўя ня толькі да Залі паседжаньняў Вярхоўнага Савета - да Скідаля не даедуць.

Як ня марылі члены партыі камуністаў Беларусі аб прытоку новых сіл,асабліва моладзі, але іхнія летуценьні павісьлі ў паветры. Вось і ў сьпісах кандыдатаў у парламант стракацяць прозвішчы добра знаёмых функцыянераў,якія таксама "ўсе ў гадах"...

Зачасьцілі на Гарадзенчышну і іншыя партыі. Так званая, напрыклад, партыя сацыяльнай справядлівасьці, ці, як яе інакш клічуць, "партыя Нятылькіна-Сіроцкага" . Першы прадстаўляе інвалідаў па зроку ў цяперашнім парламаньце, другі, Сіроцкі, - былы дырэктар Менскай партыйнай школы пры ЦК КПБ. Праграмы гэтай партыі , як і ПКБ, падобны ў адным - марамі аб "горадзе сонца", аб справядлівасьці сацыяльнай і д.п. На жаль, пад гэтыя праграмы не падведзена практычная база. І, хаця яны не такія папулісцкія, як лукашэнкаўскія, але лёс наканаваў ім нежыцьцяздольнасьць. Дарэчы, нічым закончыліся спробы функцыянераў партыі справядлівасьці завербаваць у свае рады некаторых журналістаў Горадні. Апошнія, да іх гонару, пакуль хочуць быць самімі сабой.

Вось адзін толькі штрых. Скажам, праз тры дні ў Менску адбудзецца з'езд гэтай партыі. Таму ейныя актывісты агітуюць уступаць нават тых, хто непадзяляе іх поглядаў на сітуацыю ў рэспубліцы.

- Нам патрэбна масавасьць, - угаворваюць яны. - А астатняе ня так хвалюе.

Згадваючы гэта, успомніў адзін эпізод з фармаваньня прэзідэнцкай "вертыкалі" ў Кастрычніцкім раёне Горадні. Калі першы "вертыкальны"- кандыдат Лосеў, прадстаўнік арганізацыі "Ачышчэньне", быў адзінагалосна " правалены" дэпутатамі, то сьпешна пачаліся пошукі іншых. Кінуліся туды-сюды - ёсьць дастойныя кандыдаты, але тыя падаліся ў камерцыю. Пачалі ўгаворваць аднаго, другога. Ня хочуць. Вось які довад:

- Я не падзяляў поглядаў Лукашэнкі, яго антыкрызісная праграма не вытрымлівае ніякай крытыкі. У рэшце рэшт я за яго не галасаваў, як буду працаваць у гэтай "вертыкалі"?

- Ня важна, - адказваюць высокія "вертыкальныя", - што ты не з прэзідэнтам. Гэта ня мае значэньня. Працуй ціхутка і ўсё...

- !?!

У мяне зьяўляецца сумненьне, што значная частка "вертыкальных" не падтрымлівае па многіх пазіцыях свайго боса. І невядома, якую палітыку яны будуць праводзіць падчас выбараў, каму аддаваць свае сімпатыі.

### ШТО Я СКАЖУ СВАЙМУ СЫНУ

Мінулай восеньню мой сын атрымаў у школе заданьне скласьці аповяд пра нашы сымбалі -герб" Пагоню" і бел-чырвона-белы сьцяг. Куды толькі не зьвярталіся. Але найлепш і падрабязьней растлумачылі значэньне гэтых сьвятынь у культурна-асьветніцкім Фоньдзе "Бацькаўшчына". Хлапец быў проста акрылены, пачуўшы славутую легенду з гісторыі Беларусі. Успомнілася, як супраць гэтага выступалі дружным хорам гісторыкі КПСС і СССР, а таксама мясцовыя "абэцэдарскія". Радаваўся сын і я той заслужанай пяцёрцы ў дзёньніку за выдатны адказ на ўроку. І вось сёньня што я скажу сыну аб спробах зьнішчыць нашу дзяржаўную сымболіку? Вярнуць "сярпасты-малаткасты"? Як буду глядзець у вочы юнаму беларусу, чый дзед загінуў пры невядомых абставінах у пачатку вайны, як прыхільнік Беларускай Народнай Рэспублікі.

Спроба прэзідэнта перад выбарамі навязаць рэферэндум аб сымболіцы - гэта не што іншае, як спроба набраць ачкі ў барацьбе за ўладу, абапіраючыся на пэўныя (і немалыя!) антыбеларускія сілы ў рэспубліцы.

Няведаньне спадаром Лукашэнкам і яго атачэньнем гісторыі роднага краю (бывае, недавучылі, убілі ў галаву чужую ідэалогію) наводзіць на сумныя думкі. Гісторыя Беларусі, асабліва ў складзе Вялікага княства Літоўскага, прызнаецца гісторыкамі ўсяго сьвету як неперaўзыдзеная каштоўнасьць, як жамчужына сусьветнай гісторыі.

Дык ці трэба палітыку ад "саўгаса" занава перапісваць яе? Лепш было б узяцца за падручнік па гісторыі пачатковых класаў.

### ЦЭНЗУРА ДРУКУ – ПЕРАДВЫБАРЧАЕ ШТУКАРСТВА

І зноў, "дзякуючы" пісьму з Гарадзеншчыны, пасьля рэдактара "Рэспублікі," разьвітаўся з пасадай рэдактар "Народнай газеты" Іосіф Сярэдзіч. Чалавек, які нядаўна перад усёй краінай сказаў прэзідэнту: "Як Вам ня сорамна, Аляксандр Рыгоравіч!".

Пазіцыя амаль усёй беларускай прэсы ў адносінах да прэзідэнта - неканструктыўная. Не, яна не нясе пагрозу Беларусі, яе суверэнітэту. Наадварот, сьмелае слова ой як непадабаецца бяздарным палітыканам. Асабліва цяпер, калі прэса апынулася ў цэнтры палітычнай барацьбы за ўладу. І было б недаравальна каманьдзе Лукашэнкі, каб яна зараз стала безкантрольнай. Але будзь прэзідэнт больш пакладзісты да прэсы, каб ён раіўся з ёй, нават і аб тым, чаму з 10 ліпеня і да дня сёньняшняга нічога не зьмянілася, - ён бы знайшоў сярод журналістаў шмат прыхільнікаў.

Мне здаецца, на гэты жандарскі выпад будзе ня толькі калектыўны эўрапейскі адпор, але і міжнародная рэакцыя. Бачыце, над нашым свабодным словам, над нашай думкай патрэбен кантралёр, так званы "наглядальны савет". Інакш кажучы, жандар з дубінкай. Ну, недзе ў трунах неспакойна варочаюцца Іосіф Вісарыёнавіч і Суслаў. Яны гэта рабілі выдатна!

### ЯКІЯ ШАНЦЫ Ў НАРОДНАГА ФРОНТА

Яны вялікія. Асабліва, калі разам з Грамадой і іншымі патрыятычнымі сіламі да выбараў яны, як пісаў наш класік,"выйдуць шчыльнымі радамі". Гэтую сілу падчас наведваньня Горадні публічна прызнаў і кіраўнік Партыі народнай згоды Генадзь Карпенка. А гэты палітык слоў на вецер ня кідае.

Мне даводзілася ўдзельнічаць у акцыях Народнага Фронта ў Горадні. Любы збор подпісаў, а іх праводзілася нямала, выяўляў, што ідэі Адраджэньня ў асноўным падтрымлівае моладзь. Апытаньні, праведзеныя ў розных калектывах, паказваюць, што за Народны Фронт на выбарах у Вярхоўны Савет будуць галасаваць настаўнікі, студэнты, сельская інтэлігенцыя, урачы, спароўцы, невялікая частка калгасьнікаў і іншыя.

Вельмі правільна, што лідэры Народнага Фронту падаліся ў вёску. Бо там жывуць адурманеныя дэмагогіяй выбрачышкі, якія ў мінулым годзе стварылі монстра. Людзі ўжо дажыліся да такога жабрацтва, што чакаюць ці то Чынгіс-Хана з Усходу, ці то Карла з Захаду, абы лепш жылося. Гэтая беларуская палітычная багна - наша нацыянальная бяда. Бо зьнясілены за 70 гадоў савецкай улады, самы працавіты ў Эўропе народ страціў веру. І яна, дзякуючы сябрам Народнага Фронту, паціху аднаўляецца.

Мне вельмі верыцца, што пройдуць гады, дзесяцігоддзі можа, і ўва ўсенародна абранага беларускага прэзідэнта выступяць сьлёзы на вачах не за тое, што ён выслухаў антыкарупцыйны даклад аб сваім атачэньні, а сьлёзы радасьці за таго ж беларускага алімпійца, у гонар якога падымецца пад гукі беларускага гімна бел-чырвона-белы сьцяг.

**Алесь РАГАЧЭЎСКІ.**

## ГАНЬБА ЗДРАДНІКАМ! АЛЬБО БУДЗЬМА ПІЛЬНЫМІ.

Родная мая Беларусь, прасьніся, расплюшчы вочы! Паглядзі, куды вядуць цябе сьляпыя ды вар'яты! Браты і сёстры, родныя мае беларусы, ратуйце сваю маці!

Другі раз у гэтым стагоддзі і другі раз за сваю гісторыю Беларусь мела магчымасьць стаць вольнай і незалежнай. Але зноў яе хапае сваімі лапамі двухгаловая пачвара і цягне да сябе ў гняздо. Пагоню на нашым гербе трэба павярнуць з захаду на ўсход, бо цяпер наш вораг там. Асабліва цяпер успамінаюцца словы Казіміра Сваяка: "Перастануць жа калікольвек тузгаць Беларусь, як нявольніцу: "Ты мая, ты мая".

Лёс беларусаў, як нацыі, вырашаецца сёньня. Калі ж беларус пратрэ свае вочы і перастане быць абыякавым?

Радзіму нашу гвалтуюць і грабяць на нашых вачах. А гэта ж наша маці! Злодзей цяпер гаспадар жыцьця. І той, хто запускае руку ў нашу кішэню, і той, хто прыціскае уладай. Азірніцеся, прыгледзьцеся, што робіцца вакол вас. Тое ж самае, што і дзесяць гадоў таму назад, тлустыя морды ў кабінетах. Палацы ў іх і іхніх дзяцей. Яны гаспадары жыцьця, але за наш кошт. Прадаюцца самі і прадаюць, як нявольнікаў свой народ. Падабаецца Вам, спадар Прэзідэнт, Расея,- едзьце туды самі. А мы хочам будаваць сваю Беларусь. Сыты ўжо па горла Масквой. Хопіць з нас гэтага гвалту, ярма. Пажылі і атрымалі чужую мову, чужую казёншчыну. Растаптана наша культура, разграблена наша зямля. І што самае страшнае, яны хочуць украсьці нашу будучыню.

Паглядзіце на Ўсход. У чые абдымкі нас штурхаюць? Імперыя зноў раскрыла сваю пашчу. А з гэтай пашчы нясецца смурод крыві і серы. Паглядзіце, што яны зрабілі з Чачнёй? Яны правакуюць міжэтнічныя канфлікты ў Малдове, каб захаваць свой уплыў і танкі ў Прыдняпроўі. Каб не страціць Грузію, штурхнулі ў братазабойчую вайну абхазцаў і грузін. Не выпускаюць з лап Сярэднюю Азію, дзе таксама хочуць мець прамаскоўскія рэжымы.

Маці Беларусі! Няўжо вы хочаце, каб вашы дзеці гінулі за інтарэсы рускіх палітыкаў? Беларусы, няўжо мы хочам карміць армаду рускай арміі? Дзесяцімільённай нацыі не патрэбна такая вялікая свая, не тое што чужая армія. Нам хопіць пагранічнікаў і унутраных войск у складзе паліцыі, якія ўзялі б на сябе функцыю неабходнай абароны і барацьбы з тэрарызмам. Няўжо без Расеі на 207,6 тыс кв. км не пракорміцца нацыя колькасьцю буйнога горада? Не, мы здольны пабудаваць сваю незалежную ад Расеі дзяржаву.

Я ня клічу вас на Захад. Але наша месца ў цэнтры эўрапейскага кантынента вызначае і нашы прыродныя і натуральныя магчымасьці і інтарэсы. У складзе Вялікага княства Літоўскага, а затым і Рэчы Паспалітай, не без праблем, але на працягу практычна 500 гадоў мы пражылі з нядаўна таксама атрымаўшымі незалежнасьць палякамі, летувісамі, украінцамі і іншымі народнасьцямі, якія насяляюць суседнія краіны. Для нас гэтыя народы па духу бліжэй, чым Расея, якая адняла ў нас не толькі свабоду, але і тое, чым мы вылучаліся як народ.

Беларусы! Не дамо сябе зьнішчыць! Я заклікаю аб'яднацца ўсе здаровыя сілы рэспублікі на супрацьстаяньне здрадніцкай у адносінах да народу дзейнасьці ўрада і прэзідэнта!

Ганьба здрайцам! Няхай жыве незалежная Беларусь!

**Янка ТАТАРЫН.**
**г.Горадня.**

## ПРА ГІСТОРЫЮ З УСЬМЕШКАЙ

30 сакавіка - 1 красавіка ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце прайшла рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Усьмешкі спадарыні Кліа (гістарычныя кур'ёзы і парадоксы, іх выкарыстаньне ў новых даследваньнях і выкладчыцкай дзейнасьці)." У ёй прынялі ўдзел выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў Горадні, Менска, Масквы.

На канферэнцыі ўпершыню прагучалі часам неверагодныя, але адпавядаючыя рэчаіснасьці, факты з гісторыі Беларусі, якія не ўключаліся ў навуковыя працы гісторыкаў. На ёй былі ў прыватнасьці даклады "Працяты стрэламі Амура" (пра Тадэвуша Касьцюшку і яго каханак), "Пра арлоў, кратоў і перабудову ў пазнаньні гістарычнай даўніны".

### ГАРАДЗЕНЦЫ - ПЕРШЫЯ

У Горадні ў ПТВ N141 прайшла рэспубліканская алімпіяда па беларускай мове і літаратуры. Удзел у ёй прынялі 110 чалавек з усіх абласьцей Беларусі, а таксама з Летувы і Польшчы. Фундатарам акцыі стаў Культурна-асьветніцкі фонд "Бацькаўшчына".

Перамаглі ў алімпіядзе гарадзенцы, якія атрымалі 10 дыпломаў, другімі былі навучэнцы з Менскай вобласьці (7 дыпломаў), на трэцім - з Віцебскай (4 дыпломы).

**А.Г.**

## НЕ ДАЙЦЕ ВОЛІ МАНКУРТАМ

Паважаная рэдакцыія газеты "Пагоня"!

Гэты ліст - гэта мой крык душы. За апошні час з боку прэзідэнта, ветэранаў партыі, вайны, і некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савету ідзе брудны і ўпарты націск на нашу беларускую мову, сьцяг, герб. Не магу даць веры ды і не жадаю верыць, каб тое, аб чым я і мае сябры дзяцінства марылі, было разбурана.

Мне ўжо 80 год, і я ўспамінаю той час, калі я вучылася ў гімназіі. Мае аднакласьніцы-полькі ганарыліся, што ў іх дзяржаве ёсьць свой сьцяг, герб, што яны маюць сваю незалежную радзіму, мову. У гімназіі часта праводзіліся на фоне сьцяга, герба патрыятычныя мерапрыемствы. Падчас, калі большасьць навучэнцаў сьпявала гімн сваёй Радзімы - Польшчы, я ад крыўды, што ў мяне няма роднага герба і сьцяга, плакала. Побач мяне стаялі сяброўкі-беларускі. Яны спыталі,чаму я плачу? Пасьля майго прызнаньня, сяброўка таксама заплакала. Нам давялося пакінуць залу, таму, што на нас зьвярнулі ўвагу.

Цяпер жа, калі наша мара зьдзейсьнілася, ворагі беларушчыны маюць намер яе разбурыць.

Я дажываю можа свае апошнія дні і таму прашу Вас, спадар Прэзідэнт, і Вас, Старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, ня дайце аматарам палітычнай гульні зьнішчыць нашу мову, нашу краіну - Беларусь, нашу свабоду, герб Пагоню і наш дзяржаўны штандар. Хай нашы дзеці навучаюцца на роднай мове. Не паддавайцеся на правакацыі манкуртаў!

**Зінаіда МІСЬКЕВІЧ,**
**80 год, г.Горадня.**

## КУДЫ Ж ГЭТА ЕДУЦЬ ПЕНЬСІЯНЕРЫ?

Такое пытаньне можна пачуць у перапоўненым аўтобусе, тралейбусе. Давайце разгледзім, куды і навошта едуць пенсіянеры у Горадню. Калі была стабільная эканоміка, рытмічна працавала прамысловасьць, не душыла інфляцыя, дык пенсіянеры на 60-70 рублёў маглі нядрэнна жыць: хапала на хлеб і да хлеба. Чым яны займаліся? Корпаліся каля хаты ці ў хаце, езьдзілі ў горад толькі што ў райсабес, каб вырашыць пытаньне аб пенсіі. Цяпер жа, калі развалілася эканоміка і прамысловасьць, душыць за горла інфляцыя, частка пенсіянераў, якія яшчэ могуць па стану здароўя рухацца, зашавялілася. І знайшлі выхад. А тут яшчэ дарога бясплатная, ды адкрылася крама ад бройлернай птушкафабрыкі "Бофас". У гэтай краме яйкі таньней, чым у Горадні, ды і абмежаваньняў няма, бяры хоць воз. Нават адна пенсіянерка прадаўцам падзяку ў кнізе прапаноў напісала. Вось і сталі пенсіянеры яйкі са Скідаля вазіць у Горадню, каб мець сякі-такі прыварак да жабрацкай пенсіі. Адвязе сотню-дзьве, глядзіш - і ёсьць прыбытак ,за які можна купіць 200 ці 300 грамаў мяса, ці сала да хлеба.



- Непрыемна чуць, як нас абзываюць спекулянтамі, у тым ліку і намесьнік старшыні Скідальскага гарсавета М.І.Крышаловіч, - расказвае адна пенсіянерка. - Але ж прымусіла нас рабіць гэта само жыцьцё. Катэдж за яйкі мы не пабудуем, але жабрацкую пеньсію трохі папоўнім. Не ісьці ж нам красьці ці забіваць людзей, каб прыжыць.

Вось такі адказ тым, хто пытае: куды і навошта едуць пеньсіянеры ў Горадню. Жыцьцё заставіла іх гэта рабіць.

**Ільля БАРЫСАЎ,**
**член райсавета ветэранскай арганізацыі.**

**Фатаграфаваў: Б.МЕШЧАРАКОЎ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





# ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ

Заходняя Беларусь мела ў свой час двух Станіславаў Грынкевічаў. На жаль, жывых іх даўно ўжо няма. Малодшы Станіслаў Грынкевіч быў шчырым беларусам, памёр на эміграцыі ў Амэрыцы. Яго дзядзька Станіслаў Грынкевіч, больш яркая і таленавітая постаць, якая пакінула значны сьлед у гісторыі беларускай літаратуры і медыцыны.

Нарадзіўся Станіслаў Грынкевіч (старэйшы) 2 лютага 1902 года ў мястэчку Новы Двор былога Сакольскага павета Гарадзенскай губерні. Спачатку вучыўся ў вясковага настаўніка, які яго і рыхтаваў да іспытаў у гімназію. У 1912 годзе Стась Грынкевіч здаў іспыты і быў залічаны ў Гарадзенскую дзяржаўную мужчынскую гімназію ў першы клас.

Калі пачалася першая сусьветная вайна, С.Грынкевіч, разам са сваім стрыечным дзядзькам, выехаў у Смаленскую губерню. Там закончыў сем класаў, а праз пэўны час зноў вярнуўся ў родную вёску, дзе пачаў рыхтавацца да паступленьня ва універсітэт.

Здаўшы пасьпяхова іспыты, Станіслаў Грынкевіч паступіў у Віленскі медычны універсітэт. Але па сямейных абставінах закончыў яго ў Познані. Да 1935 года працаваў у медычнай клініцы, пасьля - у псыхіятрычнай клініцы ў Харошчы каля Беластока. Працаваў таксама ардынатарам аддзела нэрвовых хвароб, адначасова вёў лабараторныя досьледы і пісаў пра іх працы. Займаўся і перакладчыцкай дзейнасьцю: перакладаў на беларускую мову медычныя працы з іншых моў і рэлігійныя творы.

У гэты час ён рэгіструе шлюб з польскай лекаркай стаматалогіі. У сваім шчасьлівым жыцьці яны мелі двух сыноў і дзьве дачкі. Жонка Ядвіга Грынкевіч, як і яе муж Станіслаў, апрацоўвала лекарскія парады па-беларуску і нават сама пісала артыкулы на медычныя тэмы. У Вільні выходзяць іх сумесныя кнігі "Рады хворым і здаровым" (1935 г.), "Алкагалізм" (1938 г.), "Умовы і загады, неабходныя для здароўя" (1939 г.) і іншыя.

У пачатку 1937 года Станіслаў Грынкевіч з сям'ёй пераехаў у Вільню. Тут уладкаваўся на працу ў першую Віленскую паліклініку. Меў свой дом, агарод, сад. Адсюль пісаў артыкулы ў розныя беларускія часопісы. Яны зьяўляліся у "Студэнцкай думцы", "Крыніцы", "Заранцы", "Калосьсях" і ў іншых выданьнях. Ён любіў езьдзіць па беларускіх вёсках, сустракацца з людзьмі, якім чытаў папулярныя лекцыі па гігіене, медыцыне і гісторыі. У 1936 годзе С.Грынкевіч выдаў брашуру "Асьвета". На жаль, польская паліцыя яе канфіскавала, аўтар адсядзеў два тыдні за кратамі і атрымаў штраф.

У 1937 годзе, пасьля падарожжа на Украіну, ён напісаў і выдаў новую брашуру "У братоў украінцаў". Наогул, доктар медыцыны Станіслаў Грынкевіч пісаў шмат. Адны назвы ягоных артыкулаў гавораць самі за сябе, гавораць аб тым, які гэта быў адукаваны і разумны чалавек. Вось, напрыклад, некалькі назваў ягоных прац: "Аб тэатры" (1927 г.), "Царква. Помста. Вязьніца." (1928 г.), "Народ" (1927 г.), "Капля вады" (1927 г.), "Як лячыць хваробы хатнімі спосабамі" (1927 г.), "З зацемак аб характары беларусаў" (1935 г.), "Аб праве да Бацькаўшчыны" (1936 г.), "Гігіена псыхічная, як праблема асноўных адносінаў да жыцьця" (1937 г.) і многія іншыя.

Пісаў С.Грынкевіч і драматычныя творпы. У 1927 годзе ў Вільні асобным выданьнем выйшла з друку яго п'еса ў трох абразах "Жанімства па радыё". Гэта бытавы драматычны твор, які расказвае пра жыцьцё і справы беларускіх вяскоўцаў.

У беларускім эміграцыйным рэлігійным часопісе "ZNIC" (1973 г., N 117) зьмешчаны ўспамін А.Валтупскага, дзе аўтар, у праватнасьці, піша: "За два дні перад прыходам у Літву вайсковых савецкіх сіл я адведаў у Ерузалімцы Грынкевічаў. Прынагодна спаткаў у іх і друкара Скарынаўскай Друкарні ў Вільні Альфонса Шутовіча. Я стаяў на тым становішчы, што беларусам-незалежнікам, перад усім інтэлігенцыі, трэба падавацца на Захад, бо бальшавікі зьліквідуюць усіх пагалоўна. Што пазьней і сталася. Ядвіга Грынкевічыха, частуючы нас забеленай зацеркай, катэгарычна абвясьціла: "Стась нікуды ня будзе ўцякаць ад сям'і перад акупацыяй, ён ня мае ніякага праступку перад законамі акупантаў, бо ён не савецкі грамадзянін. Яны за перадваенную беларускую дзейнасьць ня могуць мець ніякага права караць. Зрэшты, бальшавікі тут не астануцца, яны прагоняць гітлераўцаў і пасьля адступяць за старыя межы, пакідаючы Польшчы тыя ўсе землі, што належалі ёй перад вайной".

Нічога аднак ня зьдзейсьнілася з таго, у што верыла спадарыня Ядвіга Грынкевічыха. На трэці дзень пасьля заняцьця Вільні і ваколіц савецкімі збройнымі сіламі, да Грынкевічаў зьяўляецца ўзброеная контрразьведка і артыштоўвае доктара С.Грынкевіча..."



Пасьля яго арышту былі канфіскаваны дом і ўся маёмасьць. А самога спадара С.Грынкевіча адправілі на допыты ў Менск. А ў канцы 1945 года пад Магілёвам расстралялі.

Лёс Ядвігі Грынкевіч склаўся па-іншаму. Ёй удалося выехаць у Польшчу, уладкавацца на працу і даць дзецям добрую адукацыю. Усё жыцьцё яна верыла, што яе муж жывы ў савецкіх лагерах, піша і друкуе артыкулы пад чужым прозьвішчам. Сябры і знаёмыя не хацелі гаварыць ёй аб трагічнай гібелі Станіслава Грынкевіча, каб жанчына не губляла надзеі.

Памерла Ядвіга Грынкевіч ад рака лёгкіх у 1963 годзе ў Гданьскім універсітэцкім шпіталі. Дзеці яе не пайшлі па сьлядах свайго бацькі. Яны лічаць сябе палякамі і беларускімі справамі не цікавяцца...

Застаецца толькі спадзявацца, што імя Станіслава Грынкевіча будзе вернута ў гісторыю беларускай літаратуры, культуры і медыцыны.

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**г.Слонім.**

# З ЗАЦЕМАК АБ ХАРАКТАРЫ БЕЛАРУСА

Нашая публіцыстыка даволі шмат ахвяравала месца пытаньню "дзьвёхдушнасьці" ці "двоедушнасьці". Пытаньне гэтае мае сваю пазыцыю і на бачынах літаратуры прыгожае ў прозе і паэзіі. Сяньня, аднак, прынамся ў Заходняй Беларусі, некалькі вось ужо гадоў тэмы гэтае ніхто не чапае, думаю, што на нашым Усходзе яна таксама ня існуе. На гэта апошняе ёсьць свае,усім вядомыя прычыны.

"Дзьве душы" - гэта толькі адна старана пытаньня з галіны досьледаў псыхолёгічных, і трэба думаць, што само зьявішча у форме, у якой яно было абгаворана ў нашай літаратуры, мае толькі дачасны характар на аснове агульнага развою суцэльнасьці народу, хаця безумоўна зьявішча вельмі характэрнае і важнае.

Ня думаю спыняцца над аналізаю "дзьвёхдушнасьці", яе прычынаў, асноваў, пэрспэктываў на будучыню, а хачу падчыркнуць, што тутака мы бачылі адну із спосабаў аналітычнага падыходу да праблемы нацыянальнага характару. Спробы ж падыходу сынтэтычнага да гэнае стараны душы народу, наскольki мне вядома, надта вялікія. І трэба сказаць, што нялікасьць гэная шкодная ў першую чаргу для нас самых.

Іншая справа, ці ёсьць даволі "сырца", з якога можна было-б пабудаваць будыніну больш-менш рэальную душы народу беларускага. Кажу аб сырцы, апрацаваным навукова. Хаця зьяўляецца адначасна думка, хутчэй пытаньне, поўнае сумніваў, ці сапраўды гэныя абразы духовага быту, пабудаваныя на канве фактаў сабраных дасьледчыкамі з галіны этнолёгіі, мовазнаўства, гісторыі і г.д. больш блізкія да таго, што зьяўляецца заўсёды нечым няўяўлёным ды адначасна найважнейшым, а на што мы кажам "душа народу", ці мо' лепш яе бачаць у вагні натхненьня людзі, што завуцца песьнярамі-прарокамі...

Тое ўсё, што мы ведаем аб Беларусе, пакідаючы на старане анэкдотычны хутчэй тып мужычкахітруна, хаця і прыбітага бядою, загнанага ўсімі, замкнёнага ў сабе ці зноў апрача таго аснаўнога тону бядульлівасьці, распаўсюджанага і праслаўленага нашымі паэтамі нядаўніх дзён, - ясна, што не адказывае поўнаму абразу чалавека.

Дык калі сяньня і немагчыма нам даць поўнага нарысу аснаўных старон характару - гэнае свомасьці чалавека найважнейшае ў сэньсе вартасьці адзінкі ў плошчы практычнага дзеяньня яго ў жыцьці, усё ж такі можна прабаваць уявіць тое, што магло быць зафіксаванае на бачынах беларускае характэролёгіі.

Папытаем, што гэта такое наогул характар?

Адказаў пачуем шмат. Возьмем хаця б такі сказ Гётэ: "Жыцьцё чалавека - гэта ягоны характар"...Характар, знача, зьяўляецца тою найважнейшаю пружынаю, якая вызначае ўсе шляхі, якая дае аканчальна рэалізацыю тых ці іншых ідэалаў і ідэяў, якая робіць больш ці менш вартасным самое жыцьцё.

Абойм такога акрэсьленьня вельмі шырокі, адначасна аднак рэальна паказуе, што каб сказаць нешта аб характары адзінкі, дык трэба ўзяць ейнае жыцьцё ў цэласьці. Характар - гэта свомасьць вельмі сталая, хаця адначасна быццам цякомая. Характар, як кажа адзін з вядомых псыхіятраў і псыхолёгаў (Кронфэльд), гэта нарадзіны індывідуальнае апрычонасьці ў суадносінах адзінкі з жыцьцём. Інакш кажучы, характар - гэта індывідуальная праява рэакцыі на вонкавае дзеяньне. Ня будзем уваходзіць у спрэчкі паміж адумыслоўцамі, якая розьніца паміж канстытуцыяю ў сэнсе псыхо-тэхнічнае асноведзі чалавецкага ці нацыянальнага "я", а тэмпэрамантам і характарам. Адно ясна, што тэза аб працяжнасьці лініі жыцьцёвае мае сваю вялікую тутака вагу. Гэта бязумоўны факт, што бяз мінуўшчыны немагчыма нічога сказаць аб будучыні, як немагчыма добра ацаніць сучаснасьць. Гэныя ўсе праявы стульна злучаны паміж сабою.

Дык дасьледваючы беларускі характар, трэба нам зьвярнуцца да гісторыі, і ў мінуўшчыне шукаць адказу на пытаньне. У гісторыі мы наглядна пабачым, што сапраўды гэнае нешта невагомае вызначае рэакцыю адзінкі і згуртаваньня большага ці меншага людзей.

Ігнат Абдзіраловіч у кніжцы "Адвечным шляхам" падчырківае аснаўную лінію характару беларускага народу, а мяноўна "ваганьне" паміж Усходам і Захадам. Гэнае ваганьне ня будзе хістаньнем паводле аўтара, гэным тэрмінам хоча ён назваць нейкую асаблівую собскую лінію, якое трымаюцца Беларусы на сваім шляху гістарычным. Ужо першы вучоны беларускі, д-р Францішак Скарына вызначаўся тым, што духова не належаў да заходу ані да ўсходу, і гэта магло паказываць, што не здаволівала яго культура ні рымская, ні візантыйская, ён шукаў свае арыгінальнае лініі. Адно цікаўнае зьявішча трэба падчыркнуць у думках аўтаравых, што ваганьне, аб якім ён гаворыць, трэба разумець, як асаблівую кансэрватыўнасьць. Беларус неахвотна прымае новае, усёроўна, адкуль яно ідзе і хто яго прыносіць з сабою.

Другая рыса характару, якая кідаецца ў вочы, спыніўшысь на мамэнт толькі на падзеях гістарычных Беларусі, гэта ейная міралюбівасьць, антымілітарызм, як мы казалі б сёньня. І вось антымілітарызм і кансэрватызм пакідаюць яркія сьляды ад самага раньняга жыцьця Беларусі, як асобнае псыхо-этнічнае адзінкі. Кансэрватызм - гэта свомасьць да некаторае граніцы агульначалавецкае. Заўсёды можна судзіць аб чалавеку, якім ён будзе, мяркуючы паводле таго, якім ён быў дагэтуль. Рэвалюцыі мае кожны чалавек, аднак рэвалюцыя астаецца заўсёды рэвалюцыяю, значыцца нечым вынятковым, з чым трэба рахавацца пастолькі, паскольki. Сёньня маем ужо навучны грунт дзеля разуменьня гэнага кансэрватызму.

Беларусы, як адзінка дзяржаўная, выступаюць на арэну гістарычную даволі позна, хаця не пазьней, як іншыя славянскія пляменьні, асабліва славяне ўсходняе групы. Пляменьні, з якіх аканчальна вырас народ беларускі, значыцца Крывічы, Радзімічы, Дрыгавічы і Севяране, былі параскіданы сярод балотаў і лясоў, дык ня мелі быццам на першы пагляд ніякіх граніцаў і мелі яны іх адначасна ў гэных самых лясох і балотах, якія баранілі іх ад усяляхіх навінак, што маглі лучыць з далёкага сьвету. Гэныя ўмовы геаграфічныя пакінулі, зразумела, сьледамкі на псыхіцы людзей. Тутака крыніца неспагаднасьці ўсяму новаму, неспагаднасьці хутчэй пасыўнае, дзеля таго, што ў гісторыі нашай нідзе не наглядаем больш яркага пратэсту. Гэта між іншым пакінула свае сьледамкі на ўсім, што толькі бачым у Беларусаў: у распарадкаваньні жыцьця ўнутранага і арганізацыі вонкавае, ці ў сэньсе рэакцыі на небясьпеку (вайна абаронная) ці імкненьня да карысьці (прыкладам вайна зачэпная).

Каб добра ацаніць павагу гэнага зьявішча, трэба ўмець глянуць на сваю гісторыю так, як яна была ў сапраўднасьці, трэба мець свае "акуляры", каб добра бачыць. Мы лішне часта глядзімо вачыма дасьледчыкаў,ці афіцыяльных гісторыкаў расейскіх ці польскіх. Возьмем прыкладам факт, як трэба ацаніць слабасьць дзяржаўную чыста беларускіх твораў з пары полацкае? Ці гэта няўмеласьць арганізаваць самім? Чаму ж тады гэныя самыя князі ў пару літоўска-беларускую нашае гісторыі ўмеюць гэтак складна і вясьці войны і будаваць шырока культуру ў галіне правадаўства і пісьменства? Адказ на гэта знаходзім уявіўшы сабе, што маса беларуская заўсёды ўмела вясьці сваё арганізацыйнае ўнутранае жыцьцё. Сям'я, вёска, грамада (як найніжэйшая адзінка адміністрацыйна-самаўрадавая) стаялі заўсёды надта высока і новыя ўмовы з мамэнтам новага правапарадку пасьля скасаваньня паншчыны зноў выявілі, што лепш як дзе ў іншым месцы Расейскае Імпэрыі - этнаграфічная Беларусь умела правясьці распарадкаваньне валасное гаспадаркі.

Гэны вось антымілітарызм побач традыцыяналізму, як мы сяньня казалі б, паясьняе нам тую эпоху сужыцьця ў комплексе Літоўска-Беларускае гаспадарсьцьвенасьці. Літоўскія князі сарганізавалі гэны новы дзяржаўны комплекс. Адначасна бачым мы крыху нечаканае зьявішча. Ліцьвіны заваявалі бяскроўна Беларусь, а Беларусы, быццам падняволеныя, пачынаюць кіраваць гэнаю дзяржаваю. Паясьніць гэта нехта хацеў бы вышынёю культуры тагачаснае Беларусі і ніжэйшым роўням яе на Літве. Але ці гэтакі адказ можа нас поўнасьцю задаволіць? Некаторыя падзеі сучаснасьці, якія адбываюцца на нашых вачох, паказуюць, што незаўсёды вышэйшая культура перамагае ў жыцьці. Ня буду паклікацца на праслаўлены ўжо сказ аднаго з польскіх прэм'ер-міністраў аб ліквідацыі беларускага пытаньня ў працягу 50 гадоў. Сучаснасьць зьяўляецца найлепшым адказам на натугі полёнізацыйныя. Суадносіны паміж чужым элемэнтам і масаю беларускаю паказваюць, што гэны загнаны гаротнік селянін умее зашчапіць свой сьветапогляд, свае абычаі насланаму з культурнаю місіяю да яго асадніку.

Дык ёсьць тады ў нявыразнасьці "хістаньня" беларускага нейкая суцэльнасьць, сіла і трэба папытацца - ці гэта сапраўды нявыразнасьць, ці гэта мо' толькі іншыя адносіны да жыцьця? У гэтай сіле асыміляцыйнай ёсьць мо' нешта, што верыць трэба мерамі ня розуму, а катэгорыямі рэпрэзэнтаванымі ў паэзіі... Новая пара ў развою падзеяў гістарычных на тэрыторыі беларускай у сувязі ўжо з Польшчаю вызначаецца адыходам вярхоў грамадзянства, якія губляюць свой твар нацыянальны і ў працягу некалькіх стагоддзяў прытуляюцца да чужое ім псыхікі мазурскае. Ясна, што гэта ня была суцэльнасьць нацыі беларускае, што адкалолася ад свайго камля, - маса, шырокія сфэры грамадзянства асталіся пры берагу гэнае хвалі. Ня гледзячы на гэта "панскія" сфэры, усе тыя вяльможы і магнаты, да канца Рэчы Паспалітае пачувалі сваю апрычонасьць. Лішне далёкаю была псыхіка людзей, якія гаварылі на тую пару аднолькаваю моваю, значыцца польскаю, у Беларусі і ў Польшчы. Няма што ўжо казаць аб мяшчанстве і сялянстве.

Я не ўваходжу ў прычыны, якія выклікалі гэныя працэсы, ці яны былі абаснаваныя і на чым былі абаснаваныя. Безумоўна тутака, у гэнай плошчы матар'ялістычная дыялектыка магла-б трыумфаваць, яна паказала-б і даказала-б, што шляхта беларуская імкнулася да тых здабычаў сацыяльных і клясавых, якія мела на тую пару шляхта польская.

Цікавімся мы аднак зусім не аб тым. Мы хочам знайсьці толькі адказ на тое, чым зьяўляецца і якім зьяўляецца характар Беларуса не як адзінкі, а як народу. Дык адыход цэлае клясы народу мае свой тутака асаблівы зьмест. Пасыўныя адносіны масаў паказваюць дужа добра на характар полёнізацыі. Гэта быў выплад дзяржаўнае толькі палітыкі, а ніколі нейкае вышэйшасьці, перамогі багацейшае культуры. Што вышэйшасьць культурная мела ды мае ў такіх сытуацыях адноснае значэньне - паказвае хаця-б прыклад падзеяў на польскім Шлёнску. Вялікая і багатая культура нямецкая не магла перамагчы інэртных адносінаў польскага работніка і селяніна. Калі ўжо гутарка аб вышыні культураў, дык можна папытацца, дзе яна была большая ў XIV-XV стагоддзях - на Беларусі, з ейнымі жывымі і сьвежымі традыцыямі з Візантыі, ці ў сярэднявечнай тагачаснай Польшчы?.. Які настрой доўга яшчэ вітае сярод сполёнізаваных сфэраў шляхоцкіх - бачым яшчэ ў Міцкевіча, прарока новае польскае эры, у сказе: "Літва, зямелька родная..."

Прыходзіць падзел Польшчы. Дзеля вышэй прыведзеных прычынаў, зразумела, што гэны момант не закрануў глыбей масаў беларускіх. Астаюцца яны чужыя на лёзунгі інтэлігенцыі польскае ці расейскае, якія хадзілі ў народ з рознымі заклікамі. Селянін беларускі не лавіў паўстанцаў у 1863 годзе, як гэта было нат' мясцамі ў каранной Польшчы. Мясцамі ён спагадна паглядаў на натугі шляхты прагнаць маскалёў, найчасьцей аднак аставаўся інэртным. Усё гэта ня была ягоная справа. Правадыры тагачасныя ішлі да народу з лёзунгамі далёкімі і чужымі, што ня ўмелі закрануць душы. Тыя правадыры і народ ня мелі супольнага языка. Яшчэ адзін прыклад з адносінаў масы і ейнае рэакцыі з апошніх дзён. Думаю тутака аб Грамадзе. Магутны ўздойм, шуканьне свае формы ўскалыхнула народам і паклікала армію ў рады сялянска-работніцкае арганізацыі. Ці гэта быў сапраўды волат на гліняных нагах, ці ў Грамадзе мо' было яшчэ за шмат чужога?.. Адказываць на гэта было-б сяньня захутка, сяньня маем лішне мала фактычнага матар'ялу ў руках, каб рабіць станоўкія прысуды.

Характар адзінкі зьяўляецца выпладам спадчыны па продках з судзяньнем асяродзішча. Тое самае трэба сказаць аб характары народу. Асяродзішчам будзе ён сам і яго суседзі. Адначасна падзеі гэнага ж чалавека ці цэлага народу паказаціваmуць на ягоны характар.

Дык што можна казаць аб нашым нацыянальным характары? Апрача вышэй названых і падчыркнутых нахілаў да спакойна-кантэпмляцыўнага жыцьця і любасьці да свайго старадаўняга, трэба сказаць, што не паказаў ён аканчальнае свае формы, у якой ён быў-бы зусім сабою. Паасобныя ўздоймы рэвалюцыйныя - гэта толькі паказальнік, што ёсьць туга, шуканьне свайго шляху. Калі дагэтуль народ беларускі не праявіў у шырэйшым маштабе свайго твару, дык безумоўна дзякуючы сваім аснаўным рысам, а перадусім вонкавым умовам жыцьця, у якіх ён дасюль знаходзіўся.

Ці гэныя аснаўныя рысы часам ня маюць у сабе прысуду на будучыню, інакш кажучы, ці ня будуць яны тым дзейнікам, дзякуючы якому народ не астоіцца перад азброеным сьветам, асабліва гэным блізкім сьветам суседзяў? Дасюлешняя практыка казала б нам хутчэй аб тым, што гэная вонкавая нядужасьць мае ў сабе таёмную сілу апоры. Жыцьцё цячэ; новыя надыходзячыя хвормы дадуць калісь і Беларусу паказаць сябе, заняць сваё месца паміж іншымі народамі.

Цяжкі шлях Беларуса быў дагэтуль, ня лёгкі ён будзе ў бліжэйшай будучыні. Мы лішне далёкія і іншыя ад сумежных з намі народаў, каб маглі лёгка знайсьці сябе саміх. Зарука нашае будучыні ў дзеяньні ў сваёй собскай форме, адказываючай нашаму характару.

**1935 г.**

Друкуецца на мове арыгіналу.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

